

# Наша слова

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 12 (328)** 20 — 26 сакавіка 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў



## ПОСТУП ТЫДНЯ



● **15 сакавіка наша краіна адзначыла Дзень Канстытуцыі.** У звароце з гэтай нагоды Прэзідэнта Беларусі да суайчыннікаў, у прыватнасці, прагучала: "Беларуская Канстытуцыя канчаткова і беспаваротна зацвердзіла суверэнітэт і незалежнасць рэспублікі, адкрытай для супрацоўніцтва і дружбы з усімі краінамі..."

У той жа час дэманстрацыі і пікеты з нагоды свята падвергліся жорсткаму ўціску праваахоўных органаў.

● ***На захаванне і развіццё цесных духоўных сувязяў паміж Беларуссю і Польшчай накіраваны пакет дакументаў,*** *якія былі падпісаныя ў Менску першым намеснікам міністра культуры Беларусі Уладзімірам Рылаткам і намеснікам дзяржаўнага сакратара Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы Тадэвушам Полякам. Падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі дзвюх краін на 1997 — 2000 гады прадоўжыла традыцыі, якія склаліся паміж Польшчай і Беларуссю ў галіне культуры. Гэтымі дакументамі прадугледжаны шэраг сумесных праектаў, адным з якім стане адкрыццё Польскага інстытута культуры ў Менску і такога ж Беларускага інстытута ў Варшаве. Сярод найбольш буйных акцый — Дні культуры Беларусі ў Польшчы, намечаныя на травень гэтага года, аб правядзенні якіх таксама былі падпісаныя адпаведныя паперы.*

● **Цэлы блок пытанняў, што датычыць абароны сацыяльных інтарэсаў насельніцтва Беларусі, быў разгледжаны на чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў.** Як адзначалася ў ходзе пасяджэння, у 1996 годзе афіцыйна незанятымі былі больш за 900 тысяч чалавек. Па дапамогу ў працаўладкаванні ў дзяржаўную службу занятасці звярнуліся 387 тысяч чалавек. 110,8 тысячы беспрацоўных такую дапамогу атрымалі. На прафесійную падрыхтоўку і перападрыхтоўку накіравана 20,7 тысячы чалавек. Колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных на 1 студзеня 1997 года склала 182,5 тысячы чалавек. Мяркуючы па гэтай інфармацыі, можна сказаць, што ў нашай краіне можна і не быць беспрацоўным, калі не зарэгістравацца... А такія ёсць, і нямала.

● ***За 1996 год у эканоміку Беларусі ўкладзена 145 мільёнаў долараў,*** *у тым ліку прамых інвестыцый — каля 35 мільёнаў. У разліку на душу насельніцтва гэта склала 9,5 долара, у той час як у Летуве — 61, на Украіне — 11, у Расіі — 21.*

● **У друку з'явіўся Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь** "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні ў Рэспубліцы Беларусь". Сілу Дэкрэта многія менчукі ўжо спазналі на сабе.

● ***25 недзяржаўных грамадскіх арганізацый, партый і прафсаюзаў стварылі каардынацыйны камітэт "Гродзенская ініцыятыва".*** *Яго старшынём абраны член Прэзідыума Вярхоўнага Савета краіны 13-га склікання Сямён Домаш. Асноўныя мэты і задачы камітэта — умацаванне суверэнітэту дзяржавы і яе інтэграцыя ў еўрапейскую супольнасць; фармаванне ў насельніцтва Беларусі пачуцця ўласнай годнасці, нацыянальнай самасвядомасці, павагі да спадчыны і гістарычных народных традыцый, гонар за сваю Айчыну і інш.*

● **У Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адбылася** культурная акцыя — рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта прафесар Анатоль Міхайлаў перадаў галоўнай бібліятэцы нашай краіны 10 камплектаў "Сусветнай кніжнай энцыклапедыі" ў 22 тамах.

**Падрыхтаваў В. Ш.**

*Рыхтуемся да з'езда ТБМ*

# ТОЛЬКІ САМААХВЯРНАСЦЬ ДАПАМОЖА ВЫЖЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

Прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы. На ёй былі прадстаўлены дэлегаты 11-ці раённых суполак. Са справаздачным дакладам выступіў старшыня гарадской Рады прафесар Мікола Савіцкі. Дакладчык зрабіў сціслы, але змястоўны агляд дзейнасці гарадской арганізацыі руплівцаў беларускай мовы за справаздачны перыяд. Гэта і навукова-практычныя канферэнцыі, "круглыя сталы" па функцыянаванні беларускай мовы ў грамадстве, і праблемы рэфармавання правапісу, і шматлікія кантакты з рознымі грамадскімі арганізацыямі дзеля справы нацыянальнага адраджэння, а таксама адозвы, звароты, лісты да кіраўнікоў прадпрыемстваў, міністэрстваў, вышэйшых навучальных установаў з той жа мэтай — стварэння спрыяльных умоў дзеля культурнага развіцця карэннага этнасу краіны — беларусаў.

Толькі самаахвярнае змаганне за сваю этнічную адметнасць, за нацыянальны гонар і культуру, найважнейшай часткай якой з'яўляецца беларуская мова, дапаможа выжыць нашаму народу — такім быў лейтматыў выступленняў дэлегатаў канферэнцыі ў часе спрэчак па дакладзе. Прыводзіліся шматлікія прыклады такой самаахвярнай працы беларускіх патрыётаў. З вялікай цікавасцю было ўспрынятае паведамленне мастака Алеся Цыркунова і групы настаўнікаў аб тым, як у школах Заводскага раёна ладзяцца адмысловыя віктарыны па краязнаўстве. Асабліва ўразіла прысутных праца ў гэтым накірунку руплівцаў беларушчыны 131-й сярэдняй школы.

Настаўнікі ўвогуле выказалі пажаданне, каб літаратары больш пісалі пра слаўныя падзеі мінулага Беларусі, арыентуючыся на школьнікаў. Трэба прывучаць дзяцей працаваць з беларускай кнігай у бібліятэках, казалі выступоўцы, варта наладжваць агульнанацыянальныя канферэнцыі юных краязнаўцаў, а таксама нарэшце стварыць гарадскі беларускі клуб.

Гаварылі на канферэнцыі і аб тым, што трэба тэрмінова абнаўляць кіраўніцтва рэспубліканскай арганізацыі ТБМ. Выказвалася заклапочанасць кепскім фінансавым станам Таварыства. У гэтай сувязі дэлегаты вырашылі звярнуцца да ўсіх сяброў ТБМ з заклікам зрабіць разавыя добраахвотныя складкі дзеля фінансавання з'езда ТБМ. Такія складкі былі праведзеныя і сярод саміх дэлегатаў канферэнцыі.

Менская гарадская канферэнцыя ТБМ вырашыла звярнуцца да журналістаў краіны, каб яны больш паслядоўна падтрымлівалі роднае слова, а таксама персанальна да галоўных рэдактараў газет "Народная воля" і "Свабода" з тым, каб не злоўжывалі бессістэмным друкаваннем матэрыялаў на расійскай мове. "Газету "Свабода", — заўважыў адзін з ініцыятараў звароту дэлегат Алег Трусаў, — многія з ахвотай чыталі і тады, калі яна была цалкам беларускамоўнай. З разуменнем урэшце была ўспрынята і спецыяльная расійскамоўная старонка, якая затым з'явілася. Але ж цяпер разнамоўныя тэксты друкуюцца ўвогуле хаатычна, што не на карысць культуры паважанага выдання".

Згадвалася ў выступах дэлегатаў і газета "Наша слова". Адны крытыкавалі (сп.А. Белы дык не сарамячыся зняважліва выказаўся персанальна на адрас асобных журналістаў, якія пра яго пісалі "кепскае"), іншыя падтрымлівалі лінію рэдакцыі (такіх аказалася пераважная бальшыня), былі прапановы пашыраць тэматычны дыяпазон і больш паведамляць пра дзейнасць рэгіянальных суполак.

На канферэнцыі абраныя дэлегаты на рэспубліканскі з'езд ТБМ, у іх ліку — галоўны рэдактар газеты "Наша слова" Эрнэст Ялугін.

Старшынём менскай гарадской Рады ТБМ зноў абраны прафесар Мікола Савіцкі.

**Ул.Ас.**

79 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 года лепшыя сыны беларускай зямлі дамагліся абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, паспрабаваўшы вырваць нашу Бацькаўшчыну з кіпцюроў імперскага арла.

Вечная слава і ўдзячнасць нашчадкаў мужным змагарам за годнасць, дабрабыт і волю беларускага народа!



**Крычаўскі дзіцячы тэатральны калектыў "Батлейка", які дзейнічае пры гарадскім Доме дзіцячай творчасці, прызнаны адным з лепшых на Магілёўшчыне. У яго рэпертуары каля дзесяці спектакляў, створаных у асноўным на тэмы беларускіх народных казак.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# ГРАМАДСКІ РУХ: ШТО НАПЕРАДЗЕ?

***Сёлета 22 лютага ў сталіцы адбылася Асамблея беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў, ініцыятарамі правядзення якой сталі наступныя арганізацыі: АМЦ "Адукатар", "Аб'яднаны шлях – Беларусь", Беларуская асацыяцыя журналістаў, Цэнтр "Беларуская перспектыва", Беларускі Хельсінкскі камітэт, Фонд "Дзецям Чарнобыля", Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Фонд "Заканадаўчая ініцыятыва", Асацыяцыя "Зямельная рэформа", Міжнародны інстытут палітычных даследаванняў, Гуманітарны фонд "Наша Ніва", Асацыяцыя "Public Relations", Цэнтр "Супольнасць", Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі, Цэнтр "Еўрафорум".***

*Прапануем увазе чытачоў выніковыя дакументы канферэнцыі.*

## Аб каардынацыі дзейнасці беларускіх няўрадавых арганізацыяў

Пастанова Асамблеі беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў

1. Мы, удзельнікі Асамблеі беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў (НА), якія вызнаюць каштоўнасці дэмакратыі, плюралізму, правоў чалавека, незалежнасці нашай краіны як перадумовы рэалізацыі грамадскай ініцыятывы, лічым мэтазгодным аб'яднаць свае дзеянні для ўмацавання і развіцця дэмакратычнага грамадскага сектара ў краіне. Кансультацыйна-каардынацыйнае супрацоўніцтва мусіць адбывацца на прынцыпах самастойнасці арганізацыяў, іх салідарнасці і ўзаемадзеяння дзеля дасягнення агульнай мэты.

Надалей Асамблея беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў будзе збірацца не радзей як раз на год. На Асамблеі разглядаюцца пытанні стратэгіі і тактыкі дзейнасці няўрадавых арганізацыяў, прымаюцца рашэнні, якія маюць рэкамендацыйны характар для арганізацыяў і абавязковы — для рабочага органа Асамблеі.

2. Для каардынацыі дзейнасці няўрадавых арганізацыяў Асамблея стварае рабочую групу, якая мае дзейнічаць паміж чарговымі скліканнямі Асамблеі. Задачамі гэтай структуры ёсць:

ладжанне інфармацыйнага абмену паміж беларускімі арганізацыямі, а таксама паміж беларускімі і замежнымі НА;

арганізацыя і правядзенне тэматычных "круглых сталоў", прысвечаных актуальным праблемам развіцця "трэцяга" (грамадскага) сектара, распрацоўцы сумесных праектаў, узгадненню пазіцыяў родных арганізацыяў;

абарона правоў няўрадавых арганізацыяў, прадстаўніцтва Асамблеі ў межах прынятых ёю рашэнняў;

ладжанне сталых кантактаў з сродкамі інфармацыі дзеля аператыўнага інфармавання грамадства аб ініцыятывах НА;

арганізацыйнае забеспячэнне склікання і правядзення чарговых Асамблеяў.

У склад рабочай групы на добраахвотных асновах увайшлі прадстаўнікі наступных арганізацыяў: АМЦ "Адукатар", "Аб'яднаны шлях — Беларусь", Беларуская асацыяцыя журналістаў, Цэнтр "Беларуская перспектыва", Беларускі Хельсінкскі камітэт, Фонд "Дзецям Чарнобыля", Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Фонд "Заканадаўчая ініцыятыва", Асацыяцыя "Зямельная рэформа", Міжнародны інстытут палітычных даследаванняў, Гуманітарны фонд "Наша Ніва", Асацыяцыя "Public Relations", Цэнтр "Супольнасць", Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі, Цэнтр "Еўрафорум", Беларускі PEN-Цэнтр, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Асацыяцыя "ВІТ" (Гародня), Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, НЦСІ "Усход — Захад", СКАФ — Беларускі цэнтр падтрымкі асацыяцый і фондаў, Салігорскі рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятыў, Цэнтр лакальнай дэмакратыі (Віцебск).

У рабочую групу могуць уваходзіць арганізацыі, якія на прынцыпах самаініцыятывы бяруцца адказваць за пэўную сферу працы рабочай групы. Колькасны склад групы не рэгламентуецца, яе сябры працуюць на грамадскіх асновах. Унутраны рэгламент працы рабочай групы прымаецца на яе пасяджэнні. Рабочая група робіць справаздачу перад наступнай Асамблеяй.

*22 лютага 1997 г.*

*г.Менск.*

*(Заканчэнне на стар.2.)*

# Пяцідзёнцы — "одобрямс-с-с?"...

*З нагоды*

Неабходнасць школьнай рэформы ні ў кога не выклікае сумнення. Інакш тупіковы шлях: краіна пад пагрозай апынуцца без адукаванай і выхаванай на базе ўласнага вопыту моладзі. Распрацаваная канцэпцыя рэфармавання школы, удакладняюцца навучальныя планы і праграмы, яе перавод на вучэбную пяцідзёнку пры дванаццацігадовым тэрміне навучання.

Але ці такое ўжо ўсё аднaзначнае ў гэтым пытанні, як падаецца на першы погляд? Не. Далібог, нашыя вучоныя мужы ад адукацыі занадта захапіліся "вандроўкамі ў чужыя Таўрыды".

Пяцідзёнкавы ажыятаж зразумелы: за яе большасць як вучняў, так і настаўнікаў. Настаўнікі і вучні задаволеныя яшчэ адным выхадным днём. Засмучаныя ж падаўжэннем навучальнага года аж да сярэдзіны чэрвеня (а ў выпускных класах з экзаменамі можа і яшчэ больш), змяншэннем канікулярнага часу зімой і вясной на два дні, а летам — ажно на дзесяць. А гэта, ой, як не пажадана, асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе бацькі на пальцах падлічваюць кожны дзень вясны і пачатку лета, каб дачакацца сваіх дзяцей-памочнікаў у агародзе, на полі, на калгаснай ферме, на сенажаці. Ды і прадукцыйнасць вучэбнай працы ў гэты вясновa-летні час нізкая. Да таго ж, пэўна, дадасца клопату ў няпоўных сем'ях, нягеглым бабулям і дзядулям па доглядзе сваіх любых унукаў і праўнукаў. Прыйдзецца жвавей варушыцца дзіцячым пакоям міліцыі і наркалагічным службам. Выклікае занепакоенасць і карэкціроўка вучэбных планаў і праграм: ці не адбудзецца іх "кастрацыя" за кошт "Папялушкі" — роднай мовы і літаратуры. Дай, Божа, памыліцца.

Але, як казаў вядомы эксnалітык, "працэс пайшоў". Ужо паступаюць першыя захапляючыя рэляцыі, у якіх аўтары дзеляцца вопытам занятасці дзяцей у лішні выхадны дзень ("Настаўніцкая газета", №8 за 1 лютага 1997 г.): тут і Спартландзі з гульнямі на свежым паветры, і турніры дужкаспрытных-цікаўных, дыскатэкі і культпаходы, заняткі ў гуртках па інтарэсах і спартыўных секцыях, плаванне ў басейнах і інш. Ідылія дый годзе! Пры гэтым сціпла замоўчваецца негатыў: колькі адбылося незапланаваных "тусовак", колькі малалеткамі дадаткова выкалена блокаў цыгарэт, адкаркавана пляшак віна...

Дык як жа не задумацца над пытаннем: пяцідзёнка — панацэя ці немач-навала?

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**выдатнік народнай асветы.**
в. Рамель, Столінпічына.

# Створаны "Камітэт ушанавання"

Пры клубе "Спадчына" створаны грамадскі "Камітэт ушанавання", які ставіць свaімі задачамі:

**1. Ганараванне тых грамадзянаў Рэспублікі Беларусь ды іншых дзяржаваў ордэнам "Гонар Айчыны", хто годна прычыніўся да грамадскай і навукова-асветніцкай дзейнасці на карысць нашай Бацькаўшчыны, да адраджэння, захавання і памнажэння нацыянальнай спадчыны. Разам з адмысловым ордэнам лаўрэату ўручаецца адпаведны дыплом.**

2. Ганараванне **срэбным пярсцёнкам** з выявай старажытнага герба Беларускай дзяржавы **"Пагоня"** з надпісам **"Жыве Беларусь!"** і асабістымі ініцыяламі ганароўца. Адначасова з пярсцёнкам уручаецца адпаведны дыплом.

3. Ганараванне **памятным медалём** з выявай **"Пагоня"** з уручэннем адпаведнага дыплома.

4. Ушанаванне асобы алейным ці графічным **партрэтам** для стварэння нацыянальнай галерэі **"Дзеячы нацыянальнай культуры і Адраджэння"**. Усе ганароўцы заносяцца ў спецыяльную кнігу гонару **"Рупліўцы твае, Беларусь"**, дзе будуць пададзеныя іх біяграфіі, учынкі і партрэты.

"Камітэт ушанавання" разлічвае на перспектыву **стварэнне грамадскага музея Нацыянальнага Адраджэння Беларусі.**

Ганараванне ордэнам, пярсцёнкам, памятным медалём, ушанаванне партрэтам з занясеннем у кнігу гонару будзе ажыццяўляцца штогод 25 сакавіка ў дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, прымяркоўвацца да іншых гістарычна-знамянальных датаў па наступных намінацыях:

*1).* За плённую грамадска-палітычную і культурна-асветніцкую дзейнасць.

*2).* За выдатныя дасягненні ў галіне літаратуры, дэмакратычнай журналістыкі, выяўленчага, тэатральнага мастацтва.

*3).* За вялікі ўклад у адраджэнне беларускай мовы і школы культуры і гістарычнай памяці народа, нацыянальных традыцыяў у царкоўна-рэлігійным жыцці.

*4).* За дабрачынную дзейнасць і ахвяраванні на нацыянальныя справы.

*5).* За іншыя самаахвярныя ўчынкі.

"Камітэт ушанавання" заклікаў усе грамадскія арганізацыі, партыі і рухі, якія ставяць сваёй мэтай захаванне незалежнасці Беларусі, яе свабоды і дэмакратыі, а таксама стаяць на пазіцыях нацыянальнага Адраджэння, да супрацоўніцтва і падтрымкі, а таксама просім дасылаць свае прапановы на ганараванне пісьмова з абгрунтаваннем на права ўшанавання свайго кандыдата з апісаннем ягоных канкрэтных учынкаў, кароткай біяграфіі і фотапартрэта.

Заяўкі прымаюцца на працягу ўсяго года.

У склад кіраўніцтва "Камітэта ўшанавання" абраныя Анатоль Белы (старшыня), Анатоль Грыцкевіч (заступнік), Леанід Лыч (заступнік), сябры — Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Мікола Ермаловіч, Георг Штыхаў, Язэп Юхо, сакратар Юля Жукава.

**Л.Л.**

## *У газетах*

### Ці такія ўжо аб'ектыўныя расійскія сродкі масавай інфармацыі

"...І калі іншы раз ГРТ, РТР ці НТБ даюць калійца праўдзівай інфармацыі, дык з той нагоды, што гэта інфармацыя выгадная ў першую чаргу пэўным колам у Расіі, а не беларускай дэмакратыі. Ёсць парог і цераз яго ніколі не пусцяць! А для ўрадлівых беларускіх дэмакратаў на бязрыб'і і рак — рыба, і з пенай ля роту яны даказваюць наяўнасць дэмакратыі ды свабоды слова ў Расіі".

*("Здравый смысл", № 9, 1997.)*

### Іўе мае сваю адметную гісторыю...

У г. п. Іўі Гарадзенскай вобласці праведзеная канферэнцыя на тэму "Іўеўскі край: мінуўшчына і сучаснасць". Яе арганізатарамі былі Іўеўскі раённы выканаўчы камітэт, Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі, кафедра гісторыі Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, Гарадзенскі абласны і Іўеўскі раённы савет Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Старшыня райвыканкама, дэпутат палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Мікалай Уладзіміравіч Дуніч выступіў з дакладам на тэму "Кароткі гістарычны агляд Іўеўшчыны". Прафесар І. П. Крэнь, дэкан факультэта гісторыі і культуры ГрДУ, зрабіў даклад "Іўе — старажытны беларускі горад". Прадстаўнік Гародні М. В. Васілючак, які нарадзіўся на Іўеўшчыне, расказаў аб гістарычных аспектах "Насельніцтва Іўеўшчыны ў барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і ўз'яднанне з БССР"... Прадстаўніца Інстытута гісторыі АНБ кандыдат гістарычных навук Л. У. Дучыц закранула "Паданні пра старажытныя помнікі Іўеўшчыны". Мясцовы краязнаўца з Іўя В. У. Субач расказаў пра сядзібу ў Жамыслаўі — помнік сядзібна-паркавай культуры. В. А. Урублеўскі (Іўе) выступіў з дакладам на тэму: "Тапаніміка Іўеўшчыны з кароткай гісторыяй і этнаграфіяй". Л. І. Побаль (АНБ) прачытаў даклад "Першабытныя помнікі Іўеўшчыны"... Карацей, навукова-практычная канферэнцыя дала поўнае ўяўленне пра гэты цікавы гісторыяй ды этнаграфіяй рэгіён Беларусі ад часоў мезаліта і неаліта да нашых дзён. Адметна, што мясцовыя ўлады не толькі паспрыялі арганізацыі ў правядзенні гэтага форуму, але і ўзялі ў ім свой удзел.

*("Навіны Акадэміі навук Беларусі", № 7, 1997.)*

**Газеты чытаў А. М.**


*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

**НАША СЛОВА**

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naš a Slowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.

**Адказны сакратар** — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Камп'ютарны дызайн** — Ірына ДЗІВІНА.
**Камп'ютарны набор** Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Камп'ютарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.


# Грамадскі рух: што наперадзе?

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1)*

## ЗВАРОТ
### да міжнародных і замежных арганізацыяў

Мы, прадстаўнікі 214-ці некамерцыйных, непалітычных, няўрадавых арганізацыяў (НА) Беларусі, лічачы сваім абавязкам спрыяць дэмакратычным пераўтварэнням у нашай краіне, выказваем заклапочанасць тым, што "арганізаваны дзяржавай перaслед падставовых правоў і свабодаў чалавека ў Беларусі дасягнуў абуральнага ўзроўню", і ў гэтых умовах рэстаўрацыі аўтарытарнага рэжыму заяўляем аб імкненні дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў да цеснага супрацоўніцтва.

Мы пераканаеныя, што няўрадавы сектар адыгрывае вельмі істотную ролю ў фармаванні і захаванні дэмакратыі. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы і перашкоды, "трэці сектар" у Беларусі павольна, але ўпэўнена развіваецца, колькасць НА апошнімі гадамі ўзрасла ад некалькіх дзесяткаў да амаль дзвюх тысячаў. Хоць некаторыя НА ўжо змаглі прыкметна спрычыніцца да развіцця грамадзянскай супольнасці Беларусі, нагул няўрадавы сектар развіты недастаткова, мае мінімальную рэсурсавую базу і абмежаваныя арганізацыйныя магчымасці.

Спробы ўладаў падавіць дэмакратычныя сілы, узяць няўрадавы сектар пад кантроль, ствараючы псеўдаграмадскія парасонавыя арганізацыі, змушаюць нас выразна сфармуляваць нашыя мэты, шукаць больш эфектыўныя тэхналогіі для ўзняцця грамадзянскай свядомасці і забеспячэння нашага ўплыву на сітуацыю.

Каб адпавядаць патрабаванням часу, якія з'яўляюцца на шляху да грамадзянскай супольнасці, мы імкнёмся аб'яднаць намаганні і скаардынаваць нашую дзейнасць праз Асамблею беларускіх няўрадавых арганізацыяў. Асамблея будзе збірацца штогод, каб выпрацоўваць і прымаць стратэгію і тактыку супольнай дзейнасці дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Для каардынацыі дзейнасці Асамблея стварае рабочую групу, якая дзейнічае паміж чарговымі скліканнямі Асамблеі. Рабочая група працуе на грамадскіх асновах, і ў яе можа ўвайсці любая арганізацыя, якая бярэцца адказваць у групе за пэўны кірунак дзейнасці і працаваць на ўсёй тэрыторыі краіны.

Галоўныя мэты Асамблеі: наладжванне інфармацыйнага абмену паміж беларускімі арганізацыямі, а таксама паміж беларускімі і замежнымі НА; ініцыяванне тэматычных "круглых сталоў", прысвечаных актуальным праблемам развіцця "трэцяга" (грамадскага) сектара, распрацоўцы сумесных праектаў, узгадненню пазіцыяў родных арганізацыяў; абарона правоў няўрадавых арганізацыяў; ладжанне сталых кантактаў з сродкамі інфармацыі дзеля адстойвання дэмакратычных каштоўнасцяў і аператыўнага інфармавання грамадства аб ініцыятывах НА. Супрацоўніцтва з міжнароднымі і замежнымі арганізацыямі і фундацыямі адыгрывае вырашальную ролю для замацавання і развіцця дэмакратыі ў нашай краіне. Звяртаем вашую ўвагу на наступныя моманты:

1. Мы лічым вартым, каб міжнародныя арганізацыі і фундацыі ўважліва прааналізавалі досвед іхняга супрацоўніцтва з урадавымі структурамі Беларусі ў святле антыдэмакратычнай практыкі гэтых уладаў. Асамблея дае міжнародным арганізацыям магчымасць мець інфармацыю пра надзейных партнёраў у Беларусі, якія сапраўды імкнуцца мацаваць структуру дэмакратычных НА і фармаваць грамадзянскую супольнасць.

2. Дзеля атрымання інфармацыі "з першых рук" і лепшага вывучэння патрэбаў і магчымасцяў беларускіх НА міжнародным арганізацыям і фундацыям варта было б заснаваць у Беларусі свае філіі.

3.Дзеля ўзмацнення арганізацыйнага патэнцыялу беларускіх НА і падвышэння жыццяздольнасці "трэцяга сектара" Беларусі тыя фундацыйныя арганізацыі, якія актыўна працуюць у краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы, маглі б разгледзець магчымасць больш цеснага супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі Беларусі.

4. Для інфармавання сусветнай грамадскай думкі пра сітуацыю ў Беларусі, што істотна ў плане забеспячэння ўстойлівага развіцця цэнтральна-ўсходнееўрапейскага рэгіёна, падаецца мэтазгодным пачаць і падтрымліваць канструктыўны дыялог паміж прадстаўнікамі найбольш значных міжнародных арганізацыяў і Асамблеяй.

5. Дзеля спрыяння дэмакратычным пераўтварэнням у Беларусі мы падахвочваем міжнародных грантадаўцаў звярнуць увагу на наступныя праграмы: умацаванне інстытуцыйных магчымасцяў (тэхналогія прапаганды, майстэрства падачы інфармацыі, лідэрскія ўмельствы, арганізацыя супрацоўніцтва); публікаванне адукацыйных матэрыялаў; абарона правоў чалавека; мінімальная агульная падтрымка няўрадавых арганізацыяў у правінцыі; адукацыя; культурных ініцыятывы; палітычныя даследаванні; заканадаўства.

6. Мы запрашаем НА з краінаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы да ажыццяўлення супольных праектаў, каб выпрацаваць унікальныя шматаспектавыя падыход да складаных рэгіянальных, нацыянальных і глабальных пытанняў.

*22 лютага 1997 г.*
*г.Менск.*

## Аб становішчы няўрадавых арганізацыяў у Беларусі

*Рэзалюцыя Асамблеі беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў*

Апошнія гады сталі перыядам фармавання ў нашай краіне сеткі няўрадавых арганізацыяў. Нягледзячы на цяжкасці, шмат якія з створаных за гэты час арганізацыяў даказалі сваю жыццяздольнасць і рэальна засведчылі пачатак разняволення беларускага грамадства.

Разам з тым агульная сітуацыя ў краіне змушае нас выказаць сур'ёзную заклапочанасць перспектывамі станаўлення і развіцця беларускага "трэцяга сектара". Заклапочанасць вынікае з наступных акалічнасцяў:

Ініцыятывы грамадзян сутыкаюцца з усё большым супрацівам улaдных структураў, не зацікаўленых у самаарганізацыі і развіцці грамадзянскай супольнасці. Адсутнічае неабходная эканамічная і палітычна-праўная інфраструктура для развіцця няўрадавых арганізацыяў. Працягваецца наступ на правы і свабоды грамадзян.

Ідзе навязаны "зверху" працэс падзелу наяўных у беларускім грамадстве інтарэсаў на "добрыя" і "дрэнныя". Пра гэта сведчаць спробы ўладаў ініцыяваць стварэнне квазігрaмадскіх структураў, надзеленых манапольным правам прадстаўляць адпаведную частку спектра сацыяльных інтарэсаў.

Апошнім часам беларускія ўлады актывізавалі дзеянні, скіраваныя на абмежаванне рэсурсавай базы развіцця няўрадавых арганізацыяў. Дзеля гэтага ўводзіцца жорсткі дзяржаўны кантроль за спонсарскай дзейнасцю прыватных прадпрымальнікаў, абмяжоўваецца свабода слова і сходаў.

Названыя чыннікі адмоўна ўплываюць на ўнутраны стан і развіццё няўрадавых арганізацыяў. Многія тэхналогіі дзейнасці, выпрацаваныя гэтымі арганізацыямі раней, у цяперашніх умовах сталі неэфектыўнымі. Кіраўніцтва і персанал большасці беларускіх няўрадавых арганізацыяў не маюць неабходных ведаў і кваліфікацыі ў галіне праўнага забеспячэння сваёй дзейнасці, залучэння фінансавых сродкаў, арганізацыі кіравання і г.д. Арганізацыі дрэнна паінфармаваныя пра дзейнасць родных структураў, у іхняй працы назіраецца дубляванне і распыленне намаганняў.

Мы, удзельнікі Асамблеі, лічым любыя спробы абмежаваць права грамадзянаў на свабоду аб'яднанняў і на абарону сваіх законных інтарэсаў недапушчальнымі і вельмі небяспечнымі.

На нашу думку, вырашэнне наспелых праблемаў развіцця беларускіх няўрадавых арганізацыяў немагчымае без каардынацыі намаганняў, якія дазваляюць актывізаваць пашырэнне і якасны рост "трэцяга сектара" ў Беларусі.

*22 лютага 1997 г.*
*г.Менск.*

**Падрыхтаваў У. ПАНАДА.**

Згадкі

## Кацярына Стаўбунік — патрыётка Беларусі

Біяграфічных звестак пра грамадска-культурную і палітычную беларускую дзеячку К.Стаўбунік вядома няшмат. Паводле ўспамінаў Р.Жук-Грышкевіч, дзяцінства якой было звязанае з асобай К.Стаўбунік, гэтая жанчына, у мінулым эсэрка, настаўнічала на Пружаншчыне ў 1920 — 1930-я гады. "Расаднік беларушчыны" у в.Шакі і Шакуны Пружанскага р-на, яна актыўна распаўсюджвала беларускія часопісы і кнігі, арганізоўвала тэатральныя пастаноўкі з удзелам вядомых артыстаў. "Цётка Стаўбуніха", як яе называлі дзеці, змагалася з польскімі ўладамі за тое, каб адкрыць у Пружанах беларускую школу. Кіравала зборам подпісаў пад лістом з патрабаваннем весці царкоўныя службы ў Бярэсці на беларускай мове. Высілкі К.Стаўбунік не заўсёды прыносілі плён, бо з-за палітычных поглядаў настаўніцу часта пераследавалі. У даваеннай Польшчы яе арыштоўвалі, трымалі ў зняволенні. Між тым, шматлікія беларускія школьнікі Пружаншчыны, выхаванцы "цёткі Стаўбуніхі" дзякуючы добрай падрыхтоўцы вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі, потым — ва універсітэце. Некаторыя з іх уступілі ў Вільні ў Беларускі студэнцкі саюз.

Пасля з'яднання Заходняй Беларусі з Беларуссю савецкай К.Стаўбунік працягвала як культурна-асветніцкую, так і грамадска-палітычную дзейнасць, паранейшаму абуджаючы нацыянальную самасвядомасць свайго народа. Дзякуючы настаўніцы мясцовыя жыхары сустракалі Чырвоную Армію з гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі. Калі ў Пружанах пасля прыходу бальшавікоў усталявалася часовая вайсковая ўлада, К.Стаўбунік узначаліла мясцовы камітэт (адміністрацыйную адзінку). Як таленавітая прамоўца была вылучаная дэлегатам на з'езд прадстаўнікоў Заходняй Беларусі, які вырашаў пытанне аб добраахвотным далучэнні да БССР. Аднак з-за ранейшай належнасці К.Стаўбунік да партыі эсэраў кандыдатуру ў апошні момант знялі: на з'езд паехаў іншы чалавек. Пры савецкай уладзе настаўніца была незаконна рэпрэсаваная, пасля Вялікай Айчыннай вайны некалькі гадоў правяла ў турме. У 1957 г. К.Стаўбунік памерла.

У час працы на Пружаншчыне, паводле сведчання Р.Жук-Грышкевіч, настаўніца жыла сціпла. Удава афіцэра царскага войска, яна мела траіх дзяцей: Ларысу, Таццяну, Вячаслава. Сям'я кармілася пераважна з агарода, што быў каля вясковай хаты К.Стаўбунік. Дзеці выяўлялі здольнасці да навукі, усе вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Прыязджаючы ў родныя Пружаны на летнія канікулы, яны сустракаліся з Р.Жук-Грышкевіч, яе сястрой Валянцінай (будучай аўтаркай англамоўнага падручніка "Беларуская мова" В.Пашкевіч). Са знаёмства, праз прыезджых, з беларускай літаратурай (зборнікам М.Танка "На этапах", паэмай Я . Купалы "Курган") пачалася цікавасць сям'і, у якой гадавалася Р.Жук-Грышкевіч, да нацыянальнай дзейнасці. Пад значным уплывам К.Стаўбунік Р.Жук-Грышкевіч, што разам з сястрой Валянцінай скончыла Віленскі універсітэт, пэўны час таксама настаўнічала на Пружаншчыне. Родныя, сваякі Р.Жук-Грышкевіч гэтак жа, як і блізкія К.Стаўбунік, пры саветах поўнай меры зведалі ўціск таталітарнай сістэмы. У выніку рэпрэсій Р.Жук-Грышкевіч страціла роднага брата і двух дзядзькоў.

Былыя вучні К.Стаўбунік назаўсёды захаваюць удзячнасць да сваёй незвычайнай настаўніцы — патрыёткі, барацьбіта.

**Святлана САЧАНКА.**

Замежжа

# ІНТЭГРАЦЫЯ — РУХ З ЗАПЛЮШЧАНЫМІ ВАЧЫМА?

"Інтэграцыя на захадзе Еўропы патрабуе інтэграцыі на яе ўсходзе". Гэта — ці не асноўны аргумент айчынных і замежных прыхільнікаў уваходу Беларусі ў склад Расіі. Але што адбываецца ў Еўрапейскай супольнасці сёння? На чым грунтуецца імкненне еўрапейцаў да аб'яднання і чым гэтае аб'яднанне можа скончыцца? Ці не чакае Еўрапейскі саюз такі ж распад, які напаткаў СССР?

Ролю ініцыятара працэсу інтэграцыі, якая на постсавецкай прасторы належыць Расіі, у Заходняй Еўропе адыгрывае Германія. Але калі на абшарах былога СССР мала хто імкнецца да размежавання, дык на Захадзе апазіцыю агульнаеўрапейскім лозунгам Германіі стварае Вялікая Брытанія. Урад гэтай краіны не мае сумневу ў тым, што камусьці ў Еўропе аб'яднанне дасць карысць. Але, разважаюць у Лондане, ці будзе гэта карыснае для нас?

На погляд многіх брытанскіх палітыкаў, імкненні германскага канцлера Коля злучыць Еўропу маюць не эканамічны, а палітычны характар. Таму, мяркуюць яны, калі еўрапейскае яднанне не спыніць сёння, дык заўтра яго вынікам можа стаць канфлікт краінаў — удзельніц Еўрапейскага саюза. Германія — найбольш уплывовая ў рэгіёне дзяржава — імкнецца скіраваць справы да стварэння адзінай еўрапейскай звышдзяржавы, у якой будзе дамінаваць менавіта яна, кажуць па той бок Ла-Манша. Германскае ж кіраўніцтва абвяргае гэткія абвінавачванні. Больш таго, адзінай гарантыяй адсутнасці будучых еўрапейскіх канфліктаў канцлер Коль называе незваротнасць працэсу аб'яднання, які адбываецца на кантыненце.

Брытанцы маюць яшчэ адзін аргумент на сваю карысць. Як вядома, асноваю кожнай дзяржаўнасці ёсць нацыянальная валюта, якая дазваляе утрымліваць уласную армію — частку структуры нацыянальнай бяспекі. У новай жа Еўропе дзеля спрашчэння ўзаемных разлікаў мае быць створаная адзіная еўрапейская валюта. Гэта дае падставы да спрэчак — ці не стане ўвядзенне адзінай валюты, выпусканай адзіным Еўрапейскім банкам, першым крокам да скасавання нацыянальнай дзяржаўнасці краінаў-удзельніц і ўтварэння адзінага наднацыянальнага палітычнага органа, які стане здзяйсняць кіраўніцтва новай дзяржавай — Саюзам Незалежных Дзяржаваў Заходняй Еўропы? Апошняя з праблемаў еўрапейскай інтэграцыі — моўная. Як магчыма аб'ядаць народы, што гавораць рознымі мовамі? У СССР гэтаму спрыяў таталітарны рэжым. Ці не стане моцная цэнтралізаваная дзяржаўная ўлада ўмоваю захавання і еўрапейскага адзінства?

У адной з сваіх прамоваў міністр замежных справаў Вялікай Брытаніі Мэлкалм Рыфкінд заявіў: тыя, што прапануюць будаваць адзіную Еўропу на ўзор федэрацыі кшталту ЗША, не маюць рацыі, бо Амерыка гаворыць адной моваю. У Еўропе, працягнуў ён, няма не толькі моўнага адзінства, але і адзінай, як у ЗША, грамадскай думкі, адзіных палітычных партыяў, адзіных агульнаеўрапейскіх сродкаў масавай інфармацыі. На погляд урада Вялікай Брытаніі, шлях у адзіную Еўропу — гэта крок наперад з заплюшчанымі вачыма: ніхто не ведае, куды ён прывядзе.

## Хто гаспадарыць у Венгрыі?

Гэтая гісторыя пачалася 12 траўня 1993 года. Ранкам таго дня ў службу бяспекі Будапешцкага аэрапорта патэлефанаваў чалавек, які, не назваўшы свайго імя, папярэдзіў: пасажыр рэйса Масква — Будапешт Мікалай Гарбуноў будзе мець пры сябе партыю кантрабанды. Для мясцовых паліцыянтаў гэта стала падставаю папрасіць Гарбунова і чалавека, які сустракаў яго ў аэрапорце, паказаць дакументы. Праблемаў з дакументамі маскоўскі госць не меў — у яго аказаліся ажно чатыры пашпарты. У Валеева — яго спадарожніка — пашпарта не было, затое былі дванаццаць тысячаў долараў і машына, якую пасля кражы без поспеху шукала паліцыя. Гэтыя акалічнасці маглі б стаць прычынай затрымання абодвух. Маглі б, калі б да паліцыянтаў не падышоў жыхар (з нядаўняга часу) Будапешта Мікалай Шырокаў і не патлумачыў, што Гарбуноў і Валееў — супрацоўнікі ягонай прыватнай гандлёвай фірмы, зарэгістраванай у Венгрыі.

Падазраваных пакінулі на волі. Для іх абароны Шырокаў запрасіў венгерскага адваката, у часы камуністычнага рэжыму — армейскага пракурора (у сённяшняй Венгрыі былыя ваенныя пракуроры часта выступаюць у ролі адвакатаў усялякіх "былых"). Пракурор-адвакат дамогся скасавання санкцыяў супраць падазраваных, і тыя засталіся ў Венгрыі — на сваю бяду. Праз нядоўгі час Гарбуноў, Валееў і Шырокаў былі застрэленыя невядома кім проста на вуліцы.

Гэтая крымінальная гісторыя мела нечаканы працяг. Менш чым праз два тыдні пасля забойства належны адной расійскай авіякампаніі самалёт ІЛ-76 на падлёце да Будапешцкага аэрапорта з прычыны дрэннага надвор'я змяніў курс і сеў на былым расійскім вайсковым аэрадроме. Там ён прастаяў да 4 сакавіка 1994 года, пакуль не быў знішчаны. Венгерскія эксперты дагэтуль не ведаюць формулы рэчыва, якое разнесла вялікі самалёт адным моцным халодным выбухам, не пакінуўшы слядоў.

Толькі пасля таго паліцыянты зазірнулі на склады аэрадрома, што засталіся ад савецкіх войскаў. Там яны ўбачылі цэлы арсенал. Самалёт меўся перавезці яго ў Югаславію, дзе ў той час ішла вайна.

Трое расійскіх грамадзян былі забітыя таму, што нехта не хацеў, каб па іх слядах паліцыя выйшла на гэты склад зброі — такую выснову, апублікаваную толькі сёлета, зрабіла следства. Чым яшчэ займалася і працягвае займацца на іх зямлі расійская армія, венгры могуць толькі здагадвацца.

## Цюркскага адзінства не будзе

Напярэдадні візіту Нурсултана Назарбаева ў Кітай з вуснаў прэзідэнта Казахстана прагучалі наступныя словы: яго краіна не збіраецца аказваць падтрымку кітайскім уйгурам. Розныя групы насельніцтва абедзвюх краінаў вельмі неадназначна сустрэлі гэтую заяву. Чаму?

Уйгуры — такі ж, як і казахі, цюркскі народ. Не маючы ўласнай дзяржавы, ён жыве на тэрыторыі некалькіх краінаў Сярэдняй Азіі. У Казахстане ж і Кітаі уйгуры з'яўляюцца адной з буйнейшых нацыянальных меншасцяў і маюць значны ўплыў у рэгіёнах, якія засяляюць.

Нацыянальная неаднароднасць насельніцтва стварае свае праблемы. І калі ў Казахстане існуюць традыцыі мірнага іх вырашэння, дык у Кітаі сітуацыя адваротная. Улады краіны дзесяцігоддзямі праводзілі палітыку актыўнай асіміляцыі нацыянальных меншасцяў, яскравым прыкладам якой ёсць стаўленне Пекіна да карэннага насельніцтва Тыбета. Падобны лёс чакаў бы і уйгураў. Але тыя, у адрозненне ад многіх іншых, актыўна абаранялі сваю нацыянальную адметнасць.

На погляд найбольш радыкальнай часткі актывістаў нацыянальнага руху уйгураў Кітая, адзіным спосабам захавання іх як народа ёсць стварэнне на тэрыторыі кампактнага пражывання ў Кітаі (дастаткова буйной) уласнай незалежнай дзяржавы. Зразумела, што гэткія памкненні не сустрэлі падтрымкі Пекіна. Супраць уйгураў пачаліся рэпрэсіі, і сёння ў кітайскай правінцыі Сіньцзянь, якую тыя насяляюць, ідзе сапраўдная партызанская вайна паміж, з аднаго боку, уйгурскімі сепаратыстамі, а з другога — рэгулярнымі аддзеламі кітайскай арміі ды апаратам дзяржаўнай бяспекі.

Што тычыцца казахскага ўрада, дык сваёй заявай першая асоба гэтай краіны акрэсліла прыярытэты Казахстана. Добрыя адносіны з суседнім Кітаем для гэтай дзяржавы важныя больш, чым праявы цюркскага адзінства і падтрымка па-сепаратысцку настроеных прадстаўнікоў этнічна блізкай меншасці у суседняй дзяржаве.

**Падрыхтаваў У. П.**

Чыталі?

# "Białoruskie Zeszyty Historyczne"

Нядаўна беларускія чытачы польскага гістарычнага альманаха "Białoruskie zeszyty historyczne" атрымалі 2 (6) яго нумар — апошні ў 1996 годзе.

Гарадзенец Сяргей Піваварчык — аўтар першага артыкула альманаха "Беларускае Панямонне ў ранняе сярэднявеччы (X — XIII стст.)" — даследуе працэс узнікнення ў гэтым гісторыка-этнаграфічным рэгіёне першых гарадоў. "Выгаднае геаграфічнае становішча Усходняга Панямоння асабліва праявілася ў сярэдзіне XIII ст. У перыяд двух бедстваў — крыжацкай і мангольскай агрэсіі — Панямонне было адносна бяспечнай тэрыторыяй. Таму яно ў сярэдзіне XIII ст. служыць прыстанкам для насельніцтва многіх абласцей Усходняй Еўропы... Прыліў новага насельніцтва выклікаў яшчэ большае развіццё прадукцыйных сіл гэтага рэгіёна і паспрыяў вылучэнню палітычнага утварэння — Навагрудскай зямлі.. Гэта... дало ёй магчымасць стаць новым цэнтрам кансалідацыі беларускіх земляў" — робіць выснову даследнік.

Нагодаю публікацыі шэрагу працаў гісторыкаў стала адзначанае ў 1996 годзе 400-годдзе Берасцейскай уніі. Гісторыі праваслаўя ў Рэчы Паспалітай XVI — XVIII стагоддзяў прысвечаны артыкул Антона Міраноўіча "Генэзіс царкоўных брацтваў". У ім польскі гісторык параўноўвае погляды свае і сваіх папярэднікаў, падсумоўваючы: "Царкоўныя брацтвы адыгралі важную ролю ў жыцці праваслаўнай Царквы ў Рэчы Паспалітай. У канцы XVI і на працягу XVII стагоддзяў яны сталі галоўнымі асяродкамі антыуніяцкай апазіцыі. Рэлігійна-палітычная актыўнасць праваслаўнай эліты ў гарадах была выкліканая ўзростам яе вызнаёвай і нацыянальнай свядомасці".

Пытанні гісторыі рэлігіі разглядаюцца і ў публікацыях "Берасцейская унія XVII стагоддзя ў польскай гістарыяграфіі" Тэрэзы Хынчэўскай-Хэннэль (Варшава) ды "Бачанне Берасцейскай уніі ў гістарычнай свядомасці" Міраслава Папежыньскай-Турэк (Варшава). Маючы на ўвазе масавую, народную гістарычную свядомасць, аўтарка апошняга артыкула трактуе акрэсленне "народ" цалкам інакш, чым робяць гэта многія руплівцы беларушчыны нашай краіны. Народ, на погляд польскай даследніцы, гэта "супольнасць, якая ў Заходняй Еўропе фармавалася з канца XVIII, а ў нашым рэгіёне прыблізна ад сярэдзіны XIX; супольнасць, што развіваецца на грунце распаду грамадскіх і палітычных структураў феадальнага тыпу, а не супольнасць моўна-этнічную, на грунце якой вырасталі новачасныя народы. Гэтак жа і словы "нацыянальная свядомасць" тычацца гэткай жа, культурна-палітычнай, а не моўна-этнічнай супольнасці".

Артыкул Зеновія Панарскага (Таронта) "Францішак Аляхновіч — выдавец, рэдактар, публіцыст" знаёміць чытачоў альманаха з асобай і дзейнасцю Аляхновіча, а таксама падае малавядомыя ў Беларусі, належныя польскім і летувіскім даследнікам версіі забойства пісьменніка.

Гісторыі беларускага народа ў часы Другой сусветнай вайны прысвечаны і артыкул Марэка Вяжбіцкага (Варшава) "Беларусы ў Войску Польскім у час вераснёвай кампаніі 1939 г.". Частка беларусаў, як, дарэчы, і прадстаўнікоў іншых нацыянальных меншасцяў у арміі Польшчы, з пачаткам вайны аказалася дэмаралізаванай і найбольш схільнай да капітулянцтва і супрацоўніцтва з Саветамі — даводзіць аўтар, карыстаючыся шматлікімі крынічнымі матэрыяламі і ўспамінамі сведкаў.

Другія мала знаныя нам падзеі жыцця польскіх беларусаў апісаныя ў артыкуле Яўгена Міроновіча (Беласток) "Польскі Кастрычнік і беларускае насельніцтва Беласточчыны". У гэтай публікацыі разглядаецца ўплыў ліберальных зменаў, што адбыліся ў палітычным жыцці польскай дзяржавы ў сярэдзіне 50-х гадоў, на становішча ў краіне беларускай меншасці. Пэўныя асацыяцыі ў чытачоў выдання з гэтага боку мяжы можа выклікаць наступная цытата з гэтай працы: "Таксама не спрыяла працы Камісіі (створанай Беластоцкім ваяводскім камітэтам кіруючай у краіне Польскай аб'яднанай рабочай партыі — У.П.) прысутнасць у яе складзе партыйных функцыянераў беларускага паходжання. Праяўляючы клопат аб інтарэсах "народнай дзяржавы", яны мелі схільнасць бачыць у кожнай форме актыўнасці беларусаў ці нават у яе адсутнасці праявы беларускага нацыяналізму. Па сутнасці, іх роля ў працы Камісіі зводзілася да сталага падкрэслення, што яны з'яўляюцца "Добрымі палякамі і камуністамі".

Падзеі жыцця беларускага насельніцтва памежжа ў час Першай сусветнай вайны і пасля далі тэму аўтару паведамлення "Эвакуацыя царкоўнай маёмасці ў 1915 годзе і спробы яе вяртання пасля 1921 года на прыкладзе Беласточчыны" Дарафею Фіёніку (Бельск-Падляшскі). У лютым 1914 года, паведамляе аўтар, Гаспадарчы аддзел Свяшчэннага Сінода Рускай Праваслаўнай Царквы (праваслаўныя прыходы Беласточчыны ўваходзілі ў склад Гарадзенскай епархіі РПЦ) выдаў дырэктыву аб парадку эвакуацыі большай часткі храмнай і прыхрамнай рухомай маёмасці на ўсход. Такім чынам большасць званоў з цэркваў Гарадзенскай епархіі была вывезеная ў Расію. Туды ж былі адпраўленыя мошчы святога пакутніка Гаўрыла, абраз Адыгітрыі з Супрасля, каштоўныя абразы з Караснастока ды іншыя царкоўныя рэчы. Падпісаны ў 1921 годзе Рыжскі мірны дагавор прадугледжваў вяртанне царкоўнай маёмасці з Расіі ў Польшчу. Але там яна рабілася ўласнасцю дзяржавы, а яе уласнікі да 1915 года мелі адно права першакупілі. Гэтую праблему, дадае аўтар, "дапамагала вырашаць палітычнае прадстаўніцтва беларускага народа ў першым сойме II Рэчы Паспалітай."

Не менш цікавым падаецца і паведамленне Крыстыны Гамулкі (Гданьск) "Стан даследаванняў дзеяў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў Польшчы". Праблема, пазначаная ў загалоўку, дагэтуль выклікае значную цікавасць польскіх гісторыкаў і робіцца тэмаю шматлікіх іх працаў — вынікае з яго.

Акрамя згаданых, альманах змяшчае яшчэ шэраг публікацыяў крынічных матэрыялаў, рэцэнзіяў на выданні ў Беларусі і Польшчы гістарычныя працы, палемічных матэрыялаў, звестак ад навуковых канферэнцыяў, што адбыліся ў абедзвюх краінах.

**У. П.**

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*



**Беларускае адраджэнне**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

## "Каб пазбавіць літаратуру ад амярцвелых канонаў..."

Балада не жадала пераўтварацца ў міні-эпас, уціснуты ў непрывычна малы памер, а жыла сама па сабе, стрымана і з пачуцём годнасці апавядаючы пра людзей з незвычайным лёсам.

Еўрапейскі рамантызм у сваім творчым імкненні ўзнавіць літаратуру, пазбавіць яе ад амярцвелых і склератычных канонаў класіцызму, празмерна рацыяналістычных канцэпцый Асветніцтва заўважыў у народнай баладзе падарунак сэрцу, пачуццю і мове.

Рамантыкі імкнуліся зазірнуць углыб чалавека, спасцігнуць законы чалавечай душы і знайсці іншыя адзнакі зямнога шчасця. І ў гэтым верным спадарожнікам здалася ім народная балада.

На думку даследнікаў, іх адрознівала толькі ступень самасвядомасці: балада была спантаннай і стыхійнай, рамантызм — гэта згустак творчай волі. Ён хацеў вызваліць мову ад выспаранасці і рыторыкі, хацеў быць не павучальным, а захапляць чытача. Рамантыкі разумелі, што рэчаіснасць не абмяжоўваецца сярэдзінным узроўнем абавязку і дысцыпліны, а ўключае ў сябе бунт і мяцеж, наземныя і падземныя сферы, высока духоўнае, нябеснае і зніжана матэрыяльнае, імгненнае, — і ўсё гэта належала пільнаму разгляду і вытлумачэнню.

Нездарма Ворсворд пісаў у прадмове да кнігі "Лірычныя балады": "Сапраўдная паэзія ўяўляе сабой стыхійны ўзрыў моцных пачуццяў".

І таму жанрам, які найбольш адпавядаў мяцежнаму духу рамантызму, выказванню новай канцэпцыі ўспрымання свету, і была балада.

"Тагачаснае грамадства несвядома адчула ў баладзе новы дух творчасці — і яно не памылілася", — так пісаў пра наватарскую эстэтыку балады "Людміла" В. А. Жукоўскага В. Р. Бялінскі.

Бацькам літаратурнай балады лічыцца нямецкі паэт Готфрыд Аўгуст Бюргер, які напісаў у 1773 годзе баладу "Леанора" ва ўзросце 26 гадоў.

Такім чынам, пасля В. А. Жукоўскага расійская рамантычная балада магла развівацца ў двух рэчышчах: іранічным, падкрэслена стылізатарскім і ў глыбінным, філасофска-пошукавым.

Першым шляхам пайшоў А. С. Пушкін. У дзвюх ягоных баладах "Песня пра вешчага Алега" і "Жыў на свеце рыцар бедны" — адчуваецца "аддаленасць" аўтара ад жанра, гэта лёгкія штудыі мастака, які змог і ў "чужым" для сваёй творчай прыроды жанры дасягнуць вяршынь дасканаласці і філіграннасці. Але пры глыбокім аналізе можна заўважыць, што гэтыя творы толькі з пэўнымі дапушчэннямі можна назваць уласна славянскімі баладамі, бо ў першай адчуваецца моцны ўплыў эпічнай гераічнай паэмы (на наш погляд, яе жанр так і трэба вызначаць, бо ў ёй няма лірыкі, а эпіка — быліннага характару), другі твор — стылізацыя пад еўрапейскую баладу Сярэднявечча. Атаясамліванне волі чалавека з Божай, скептыцызм роднiць гэты сюжэт з заходнееўрапейскім Рэнесансам, таямніча пачуццёвы фон нагадвае пра прысутнасці ў творчасці А. С. Пушкіна элементаў барочнай жанрава-стылістычнай сістэмы.

Другім шляхам рушыў М. Ю. Лермантаў. Перапрацоўваючы традыцыі рыцарскай і ўсходняй балады, адмаўляючыся ад яе канонаў, паэт спыніў сваю ўвагу на рускай легендарнай старажытнасці. Лермантаў лічыў баладу сваім жанрам і таму меў творчае права на трансфармацыю яго.

**Культура мовы**

*Павал СЦЯЦКО*

# Пакуль будзем падсякаць свае карані?

Новы Тлумачальны слоўнік, які выйшаў з друку напрыканцы 1996 года, шмат у чым працягвае нялепшыя традыцыі свайго папярэдніка — пяцітомавага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы (Мн., 1977 — 1984). Так, у ім слова "мястэчка" ўсё яшчэ кваліфікуецца, як застарэлая намінацыя. На с. 354 чытаем: "Мястэчка... н, (уст.). Пасёлак гарадскога тыпу".

Дарэмна будзем шукаць у новым слоўніку і такое звычнае, свойскае, любае беларусу слова, як "местачковец". Яго папярэднікам яно яшчэ фіксавалася, праўда, як пасіўная лексема: "Местачковец, м. Уст. Жыхар мястэчка (Т. 3, Мн.: 1979, с. 140). А вось перакладныя слоўнікі падаюць слова "мястэчка" без стылістычнай агаворкі. Так, двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы сведчыць: "Местечко П (селение) мястэчка". (Т. 1, с. 437). Тое самае бачым і ў перавыданні 1993 года (Т. 2, с. 49). Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы слова "местачковец" падае не як застарэлае, а як размоўнае: "Местачковец м. разг. житель местечка". Бачым тут і прыметнік "местачковы" як стылёва нейтральнае слова (Т. 1, Мн., 1988, с. 685), хоць у Тлумачальным слоўніку ўсе гэтыя словы — мястэчка, местачковы, местачковец — падаюцца як застарэлыя намінацыі.

Відаць, стылёвая памета "уст." перайшла да згаданых словаў ад утваральнага "места", якое ў БРС-88 семантызуецца так: "Места ср. уст. город".

Так, дапраўды, слова "места" з значэннем "горад" выкарыстоўваецца ў сучаснай моўнай практыцы як пасіўная, застарэлая лексема. А вось пра "мястэчка" гэтага не скажаш. У жывой народнай мове і цяпер мястэчкі называюць "мястэчкамі", а не савецкімі шматслоўнымі "пасёлкі гарадскога тыпу". Дый як тады назваць жыхара такога паселішча? Гартыпасялковец? А вось "местачковец" — натуральнае, свойскае слова. А застарэлым яго хацелі зрабіць бальшавікі, імкнучыся пазбавіць беларусаў, як і іншыя народы СССР, усяго адметнага, свайго, роднага, каб зляпіць з іх "адзіны савецкі народ".

У той час слова "мястэчка" як адлюстраванне беларускай рэчаіснасці з рукапісу выкрэслівалася. Мне давялося пайсці на пэўную рызыку, каб падаць у кнігах "Народная лексіка" (Мн., 1970, с. 166) і "Народная лексіка і словаўтварэнне" (Мн., 1972, с. 276) гэтае слова ў спісе паселішчаў, дзе збіраўся лексічны матэрыял (давялося схаваць яго ў дужках). А вось у "Дыялектным слоўніку. З гаворак Зэльвеншчыны" (Мн., 1970) слова "мястэчка" ўжо знікла з спісу паселішчаў: яго ў выдавецтве БДУ імя У. І. Леніна выкраслілі пры наборы слоўніка. Дазвалялася ўжываць намінацыю "мястэчка" толькі пры геаграфічных апісаннях Кітая і іншых замежных краінаў.

Між тым, слоўнікі расійскай мовы падаюць гэтыя намінацыі як стылёва нейтральныя дзеля акрэслення этнагеаграфічнай адметнасці беларусаў і ўкраінцаў. Так, 4-томны "Словарь русского языка" (Т. 2, М., 1982, с. 256) фіксуе: "Местечко 2 ср. Большое селение городского типа на Украине, в Белоруссии и близких им областях". І ў аднатомавым "Словаре русского языка" С. Ожегова чытаем: "Местечко... Поселок полугородского типа (на Украине и в Белоруссии) прил. местечковый". Як бачым, гэтае слова мае тут не стылёвае, а тэрытарыяльнае абмежаванне. Вось гэтую лакальную адметнасць і імкнуліся зліквідаваць пры "зліцці" этнасаў у "адзіны савецкі народ".

Пасля распаду СССР, абвяшчэння Беларусі суверэннай дзяржавай, пад час нацыянальна-культурнага адраджэння слова "мястэчка" набывае высокую маўленчую актыўнасць.

А сёння імкненне некаторых лексікографаў жыць учарашнім днём, трымаць свае адмысловыя намінацыі на савецкім ланцугу, выглядае больш як дзіўна. Праўда, гэтага абмежавання не трымаецца маўленчая практыка. Дый ці можам мы, ці маем права адмаўляцца ад сваіх каранёў?

Перыядычны друк, навуковыя, публіцыстычныя працы актыўна карыстаюцца словам "мястэчка" як стылёва неабмежаваным. Вось адзін з свежых прыкладаў: "Пасля таго, як былі ліквідаваныя апошнія беларускія школы ў гарадах і мястэчках Беларусі, на працягу больш за 20 гадоў ніводзін гарадскі вучань не навучаўся ў школе па-беларуску" ("Наша слова", № 8, 1997).

Дык дакуль будзем падсякаць свае карані? Жыць застарэлаю свядомасцю? Не дбаць пра сваю нацыянальна-культурную спадчыну і мову?

**Тапаніміка**

# А штампы — знаёмыя, "саўковыя"

Калі ходзіш па вуліцах старажытнага Слуцка, які летась адзначыў свае 880-я ўгодкі, прыглядваешся да іх назваў, міжволі ўсплываюць у памяці радкі вядомага расійскага паэта: "Революционный держите шаг, неугомонный не дремлет враг". Колькі тут імёнаў дзеячаў "сусветнага пралетарыяту", расійскіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, імянітых асоб колішняй Расійскай імперыі! Праўда, у гады часовай "адлігі" 1991 — 1994 гадоў, што дакацілася і сюды, у глыбінку, дэпутаты гарсавета адважыліся на прыняцце рашэння па замене назваў трох магістральных цэнтральных вуліц — Карла Лібкнехта, Урыцкага і Валадарскага. Дзвюм першым вярнулі дарэвалюцыйныя — Віленская і Капыльская, трэцяй далі імя Максіма Багдановіча. Магчыма таму, што паблізу ад яе ў XVIII стагоддзі знаходзілася фабрыка па вырабе славутых слуцкіх паясоў, якім паэт прысвяціў верш "Слуцкія ткачыхі". Між тым, многія жыхары горада па-ранейшаму пры сустрэчы ўспамінаюць у размовах старыя назвы вуліц — Урыцкага і Валадарскага, на сумленні якіх, колішніх чэкістаў, як стала вядома цяпер, не адна сотня ахвяраў чырвонага тэрору ў гады грамадзянскай вайны. Больш таго, назвы аднаімённых завулкаў (а іх па тры ці чатыры) так і засталіся нязменнымі.

На большае дэпутаты адважыцца не пасмелі, бо гарадскую "вертыкаль" тады ўзначальвалі былы сакратар райкама партыі, чалавек, закамплексаваны на ідэях "развітога сацыялізму". Пазней, калі цэны на ўсё выраслі ў некалькі тысяч разоў, нежаданне нешта мяняць у гарадской тапаніміцы ўлады маглі вытлумачыць адсутнасцю сродкаў.

А вынішчэнне старой, дарэвалюцыйнай тапанімікі, якая хоць і не вызначалася нацыянальным зместам, а ўсё ж несла нейкія элементы старажытнасці, пачалася адразу пасля грамадзянскай вайны. Асабліва пасля таго, як у Слуцку, горадзе прыгранічным, пачалося актыўнае будаўніцтва вайсковых гарадкоў, камсастаў якіх амаль цалкам быў расійскім па нацыянальным статусе. А гэта аказала моцны ўплыў на працэс русіфікацыі школ, замену вулічнай тапанімікі. У першую чаргу замянілі назвы шасці галоўным вуліцам, што складалі жыллёвы, дзелавы і прамысловы асяродак горада: Шырокая стала Камсамольскай, Шасейная — Пралетарскай (пазней, у 60-я гады — імя Леніна), Астраўная — Сацыялістычнай, Казацкая — Чырвонаармейскай, Віленская — Карла Лібкнехта, Капыльская — Урыцкага.

Тым шматлікім вуліцам і завулкам, што паявіліся на карце горада да і пасля вайны (а іх больш за 80), сталі даваць назвы з "класавым" і прарасійскім ухілам: Баўмана, Талстога, Чэхава, Розы Люксембург, Чапаева, Тэльмана, Нахімава, Суворава, Крупскай, Парыжскай камуны і г.д. І толькі недзе ў 50 — 60-я гады паявіліся вуліцы Якуба Коласа і Янкі Купалы, Кастуся Каліноўскага, Кузьмы Чорнага. Пазней было ўвекавечанае і прозвішча славутага канструктара касмічных ракет, які працаваў побач з Каралёвым, — земляка Косберга, двух касманаўтаў. Аднак з ліку пісьменнікаў, ураджэнцаў Случчыны, а яна багатая на іх, фактычна не ўвекавечаны ў назвах вуліц ні адзін, хоць былі сярод такіх і рэпрэсаваныя ў гады сталінскага тэрору.

Масавая русіфікацыя, вынішчэнне беларускасці, як вядома, прымалі ў рэспубліцы ў савецкія часы абвальны характар і ў замене назваў вёсак, мястэчак. Як сведчыць у сваёй кнізе "Назвы зямлі беларускай" акадэмік Леанід Лыч, толькі ў 1964 годзе "па просьбе працоўных" было зліквідавана больш за 300 назваў сельскіх паселішчаў. Не абышла гэтая хваля і Случчыну. Тут яшчэ ў 20-я гады скасавалі назву мястэчка Раманаў: нехта з малапісьменных камбедаўцаў палічыў — і яму паверылі, — што ў гэтай назвы "корань" царскага роду, хоць, са слоў старажылаў, то было прозвішча першага пасяленца. Далі ж мястэчку новую назву — Леніна. Паблізу вёскі Еўлічы (радзіма вядомага народнага паэта Васіля Віткі) у гады калектывізацыі гвалтоўна звезлі ў адно паселішча некалькі хутароў. І назву далі тыповую для класавага памрачэння тых гадоў — Трактар. Пазней перайначылі — вельмі ж гучэла нягожа! — на Акцябр. Хоць бы Кастрычнік! Але ж роднае слова тады баяліся афішаваць прылюдна. З той пары і мясцовы сельсавет завецца Акцябрскім, хоць будынак выканкама знаходзіцца... за шэсць кіламетраў адсюль у буйной вёсцы Селішча! Вось ён, любімы "класава-пралетарскі" арыенцір! Па ім "ахрышчаны" яшчэ адзін сельсавет — Першамайскі, з цэнтрам у вялікай старажытнай вёсцы Гольчыцы. Але некаму з мясцовых ці раённых "актывістаў" здалося, што па назве вёскі (голь-перакатная?) аўтарытэт улады будзе прыніжаны. І нікога сёння гэтыя дзівосы не кранаюць — звыкліся.

Па прыхамаці малапісьменных чыноўнікаў, што не мелі звычкі раіцца з сялянствам, вёску Баславічы перайначылі ў Барок, Старцавічы — Знамя, Панічы — у Калініна (у 90-я гады ёй, нарэшце, пасля шматлікіх пісьмаў жыхароў у "вярхі" вярнулі старую назву), Гарнастаў — у Гарнастайлава, Бранаў — у Бранава, Клешаў — у Клешава, Мялешкавічы — у Мялешкі. Сёння, калі вёска бядуе ад наступстваў эканамічнага крызісу, непатрэту закупачных і спажывецкіх цэн на сельгаспрадукцыю, калгаснікy не да праблем тапанімікі. Ці не таму непарушнымі, як у "застойныя" гады, застаюцца назвы калгасаў: Леніна, Ленінскі шлях, Памяць Ільіча, Прамень камуны, К. Маркса, Энгельса, Тэльмана, Калініна, Дзяржынскага і нават "16 партыйны з'езд". Маецца на ўвазе той самы, на якім ЦК ВКП(б) прыняў рашэнне аб гвалтоўнай калектывізацыі вёскі. Характэрна, што ўсе пасляваенныя гады калгас па амаль усіх паказчыках займае апошняе месца ў раёне, нібы дэманструючы сваёй назвай згубнасць палітыкі бальшавікоў у адносінах да сялянства.

Непарушная застаецца назва калгаса ў самай буйной у раёне вёсцы Сорагі — "III Інтэрнацыянал". Калі гады тры ці чатыры назад нехта ўнёс прапанову замяніць яе як аджыўшую ва ўсіх адносінах, таму што яшчэ ў 1943 годзе Сталін, каб улагодзіць саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі, распусціў Камінтэрн, то сход упаўнаважаных калгаснікаў (а гэта спецыялісты, "актыў" з ліку кіраўніцкага звяна) рашуча прагаласаваў "супраць". Ну чым не ўзор масавага "саўковага" абалванівання! І гэта ў вёсцы, дзе ў 30-я гады было рэпрэсавана звыш 40 чалавек, знішчана пабудаваная яшчэ ў XVII стагоддзі княжэўнай Соф'яй Слуцкай Свята-Пакроўская царква. Вірус бальшавізму, як бачна, не менш жывучы, чым грыпу.

Пры ўездзе ў гэтую вёску з боку шашы Слуцк — Бабруйск яе назва выпісана паўметровымі літарамі на металічным высокім шчыце па-расійску: "Деревня Сороги". Колькі разоў я асабіста прасіў былога старшыню калгаса Івана Яновіча і старшыню сельсавета Анатоля Кавальчука вярнуць назве беларускамоўнае гучанне — ніхто і пальцам не паварушыў! Звыкласа з ёю і мясцовая інтэлігенцыя. Цяпер, калі "вертыкальшчыкі" на ўсіх узроўнях глядзяць на адраджэнне беларускай мовы абыякава або з грэбаваннем, нізавая "вертыкаль" тым болей не праяўляе ініцыятывы. І гэта трывожыць яшчэ больш.

**М. ТЫЧЫНА.**

г. Слуцк.

**Філалагічная загадка**

# "...Сохранялась атмосфера"...

Пад гэтай рубрыкай звычайна мы згадвалі пра адно нейкае слова, што тоіць у сабе пэўны пласт нашай гісторыі. І разгадка ягонай таямніцы неабходная, каб лепш зразумець наш лёс. Гэтым разам прапануем шэраг слоў, значэнне якіх вядомае (у выпадку, калі значэнне не супадае, падамо яго). Ды сэнс загадкі — пазнаць, угадаць, дзе знаходзіцца той рэгіён, у народнай гаворцы якога ўжываліся словы (яны падаюцца ў беларускім напісанні): аблічча (твар), аброць, аток (востраў), абы-как, ажына, ажнак (нават), альняной (ільняны), атава, ачуняць, байда (кілевае судна), баламуціць, балахон (хатняя сукенка), баяць (распавядаць), бяседа, бок (не анатамічны тэрмін), будылле (сухія сцяблiны), бывалыча, варган, ведаць, вядзьмедзь, вкупе (разам), вой (боец), гас (газа), гладкі (сыты, як у нашай песні: "Кармі мяне пірагамі, каб я **гладка** была"), гадок (равеснік), гайтан (шнурок для нацельнага крыжыка), граматка (ліст, запіска), грэбаваць, гунья (гунька, дзяружка, тканая з грубых нітак або матузоў), гурт, дзяружка, давесці (даць знаць), далонь, дамавіна (труна), дрот ажынны (калючы дрот), драбіны (воз), дудак (птушка), дуліна (груша, дрэва), дык, дзюбаць, дужа, жалмерка (жонка жаўнера), жыта, жменя, журавец (журавель), загаіцца, заместа, заплот (плот), зарас, зацепліць (запаліць агонь), звігаць (цяўкаць, як у прыказцы: воўк сабакі не баіцца, але ***звягі*** не любіць), зімусь (леташняй зімою; падобнае — ***летась***), ***зубец*** (чалавек, які цяміць, хапае, як кажуць, на ляту; не патрабуе, каб яму доўга тлумачылі), істопка (лазня), калгатня (клопаты без сэнсу), калюга, катух (свіны хлеў), квёлы, кій, кіла (грыжа), клікаць, кола (круг), копань (неглыбокі калодзеж), корч, кахацца, кошка (невялікі трохзубы якар), крынічная вада (калодзежная вада), крыга, кульбакі (торбы ля сядла), карагод, кут, лайца (той, хто лаецца), лантух, лахудра, лаяць, летась (сёлета?), лонісь (летась), мех (куль), мардаваць (забіваць), мусат (мысат, металічная частка крэсала), наглы (неспадзяваны — ***наглая смерць***), назола, наапаш (рашпілены), напрыклад, направесні, нарокам, нахіліцца, няхай, падашла пад него (наблізілася да яго — увага! вельмі цікавае беларускае кіраванне), папсаваць, пасталы, патыліца, прывада, прыклад, пешкі (пехатою), пырнуць, ратоваць, руда (кроў), ружо (стрэльба), рукамесла (рамёства), рэлі (арэлі), саквы (парныя мяхі на авёс), сбоч (збоку), свежанінка, свярбець, сема і там (тут і там), сярнікі (сярнічкі), сігаць (скакаць; падскокваць), скло (шкло), скляніца (бутэлька), скарадзіць (баранаваць), смахляваць, старац (жабрак), сцябаць, сумна, сустрэл (сустрэў), схіліцца, сябры (суседзі), торба, трошкі, халява, хворы, цыбар (цэбар), цыдулка, чапурыцца, чарлёны (чырвоны, пунсовы), чухацца, шыбаць, шыпшына, шматок, шукаць, юрага (маслянка), яворчаты ( з ясеню).

Дзеля падказкі згадаем, што пададзеныя словы запісаныя далёка па-за этнічным абшарам беларусаў.

**Падрыхтаваў З. СІЦЬКА.**

**Спорт**

## Вясна падагравае футбольныя страсці

Футбол — такая спартыўная "хвароба", якая ахоплівае самую вялікую колькасць балельшчыкаў. Канешне, недзе за акіянам, у ЗША тых жа, магчыма, болей захапляюцца баскетболам. Але Еўропа тым не меней працягвае заставацца вернай прыхільніцай гульні, якую калісьці прыдумалі ў Англіі. А з ёю — і Лацінская Амерыка. Вядома, футбольныя страсці па вышэйназванай прычыне ў Заходняй Еўропе не аціхалі і ў зімовыя месяцы. Вось і зараз там завяршаецца змаганне за самы прэстыжны трафей — Кубак чэмпіёнаў. Захапляюцца сенсацыйным разгромам англійскай камандай "Манчэстэр Юнайтэд" "Порта" з Партугаліі з лікам 4:0. Гадаюць, ці пройдзе ў фінал італьянскі "Ювентус", галандскі "Аякс" ды іспанская "Атлеціко". Здымаюць капелюшы перад майстэрствам германскай "Барусіі", якая на дортмундскім стадыёне пераканаўча абыграла французскі "Асэр" з лікам 3:1.

У нас жа рыхтуюцца да веснавога футбольнага турніру. Прыкідваюць шансы на гэты сезон менскага "Дынама" і ягонага амаль цёзкі "Дынама-93", у якога, кажуць, дзякуючы стараням Людаса Румбуціса падбіраецца па-сапраўднаму класная каманда. Кажуць, някепска глядзеліся ў таварыскім матчы з магілёўскім "Дняпром" берасцейскія дынамаўцы, а вось у Новарасійску мазыране прайгралі мясцоваму "Чарнаморцу".

Ну, ды ўсё наперадзе. А вось чаго просты балельшчык аніяк не ў стане зразумець, дык гэта нейкіх бясконцых пераходаў гульцоў не тое што з адной каманды ў другую, хоць і такое, безумоўна, прыкметна памяншае цікаўнасць да футбольных баталій, у якіх прыкметным стымулятарам заўсёды быў мясцовы патрыятызм, а ўвогуле пераезд футбалістаў з краіны ў краіну. Нешта тут не так. Ну куды гэта варта, калі той жа футбольны клуб "Маладзечна" пакідаюць 8 (!) асноўных футбалістаў не па нейкіх там прынцыповых прычынах, а толькі таму, што недзе прапанавалі хлопцам больш выгадныя кантракты. А ў навапалачан ("Нафтан-Дзявон") дык і таго болей — ажно 9 чалавек пакінулі клуб. На гэтым фоне ўжо невыразна ўспрымаюцца паведамленні тыпу: гэты майстар збірае чамаданы ў Бельгію, той — у Чэхію, таго японцы купілі, іншага — карэйцы. Ды куды ўжо цікавей у такім разе назіраць за баталіямі школьных ці студэнцкіх камандаў, дзе ўсё яшчэ непадробнае, сапраўды патрыятычнае, чымся на ўсе тыя адмысловыя фінты "варагаў скуранога мяча". Калі добра падумаць, не такое гэта ўсё бяскрыўднае для развіцця нацыянальнай еднасці і ўзаемападтрымкі.

## Гандбалісткі нацэліліся на чэмпіянат свету

Жаночы гандбол у Беларусі ўжо даволі працяглы час утрымлівае вядучыя пазіцыі сярод усходнееўрапейскіх краін. Сталыя майстры клапоцяцца пра дастойную змену, таму і вынікі гульняў з года ў год стабільна станоўчыя. Цяпер зборная Беларусі па гандболе рыхтуецца ўзяць удзел у чарговым чэмпіянаце свету, а дзеля гэтага трэба спачатку перамагчы ў адборачных матчах. Адзін з такіх матчаў нашы гандбалісткі правялі з камандай Азербайджана. Гледачы атрымалі задавальненне ад сапраўды класнай гульні нашых дзяўчат, сярод якіх асабліва вылучалася Святлана Мінеўская. У выніку пераканаўчая перамога — 30:16. Цяпер нашы гандбалісткі правядуць яшчэ матч у адказ у Баку. Спецыялісты не сумняваюцца, што і ён будзе на карысць беларускіх гандбалістак.

Падрыхтаваў У.ВЕРАБЕЙЧЫК.

***Народная творчасць***

# "Запрашаем на вячоркі"

Утульным, цёплым і гасцінным быў гэты славянскі фальклорны дом у горадзе Роўна Украіны, які сабраў пад адным дахам самабытныя народныя гурты з Расіі, Беларусі, Балгарыі, Славакіі, Польшчы. Ад Менска на фестывалі прадстаўнічаў нацыянальны ансамбль "Вячоркі" Беларускага саюза фалькларыстаў пад кіраўніцтвам Мікалая Котава.

Добра ведаючы народныя традыцыі Палесся, Мікалай Кананавіч так пабудаваў праграму каляднага відовішча, што яно адметна вылучалася сярод выступленняў іншых калектываў. Сцэнарны ланцужок канцэртнай дзеі падкупляў гледачоў сваёй арыгінальнай рытуальнасцю. У зале і на сцэне стваралася маляўнічае калядаванне з персанажамі мядзведзя, бычка, казы, пеўня, з жартаўлівымі гулямі і забавамі, прывітальнымі зваротамі і пажаданнямі: "Вітаем з калядамі, блінцамі ды аладкамі", "Дай жа Божа кожнай маці штогод па дзіцяці", "Жадаем яснага неба, духмянага хлеба, чыстай вады ды ніякай бяды". Народныя напевы і мелодыі "Лапатачкі", "Учора з вячора", "Пайшла каляда", "Вазьму я казла" ў выкананні музыкаў Міхася Шчэрбы, Славы Казючыца, Барыса Гергалавы, спявачак Бажэны Грыгор'евай, Галіны Вераб'ёвай ды іншых удзельнікаў ансамбля былі як нельга да месца ў агульным тэматычна-сюжэтным кантэксце каляднага прадстаўлення. Таму, нягледзячы на абмежаваны лімітны рэгламент выступлення кожнага калектыву ў 3 — 10 хвілін, беларускаму ансамблю зрабілі выключэнне — дазволілі паказаць у заключны дзень фестывалю ўсю канцэртную праграму. І як вынік, "Вячоркі" атрымалі вышэйшую адзнаку аргкамітэта фестывалю з уручэннем Граматы, Падзякі, Прыза глядацкіх сімпатый і грашовай прэміі.



*Мікола Котаў сярод удзельніц мастацкай самадзейнасці.*

Фота аўтара.

У нацыянальнага фальклорнага ансамбля "Вячоркі" БСФ зайздросная і абнадзеючая перспектыва. Вакол яго гуртуюцца апантаныя носьбіты неўміручай народнай спадчыны. Ён набывае статус усебеларускай творчай лабараторыі. Да яго цягнуцца калектывы з розных этнічных куткоў рэспублікі. Ён — лідэр і арганізатар штогодных традыцыйных свят беларускага абрадавага календара. Мастацкі кіраўнік ансамбля Мікалай Котаў — творчы натхняльнік і рэжысёр-пастаноўшчык шэрагу фальклорных тэлеперадач "Запрашаем на вячоркі".

Цяжка сабе ўявіць, дзе толькі ў яго бярэцца столькі сіл і энергіі, каб так самаахвярна працаваць па адраджэнні нацыянальнай культуры. Ён заўсёды ў віры танца, у коле карагода: то сярод удзельнікаў народнага хору "Пачастунак" Слуцкага мясакамбіната, ансамбля "Крынічанька" Рудзенскага дома культуры Пухавіцкага раёна, фальклорнага дзіцячага ансамбля "Дударыкі" Менскай нацыянальнай гімназіі, то ў харэаграфічным класе універсітэта культуры.

На творчым рахунку Мікалая Котава ўжо чатыры калектывы, якія ўдастоены пачэсных званняў "народныя" і "ўзорныя". Гэта тыя агеньчыкі, вакол якіх грэюцца людзі, адтайваюць душой, успамінаючы абрадавыя мелодыі, гледзячы на вясельныя танцы і кірмашовыя карагоды, якія вадзілі іх блізкія і далёкія продкі.

Мікалай Котаў нястомна збірае па драбніцах і ў першародной красе адраджае дыяменты фальклорных узораў. Гэта адзін з тых струменьчыкаў, што жывяць нашу культуру і даюць магчымасць людзям напіцца гаючай вады несмяротнай спадчыны.

А.СУРЫНОВІЧ.

**3 — 4 чэрвеня 1997 г. адбудзецца Міжнародная навуковая канферэнцыя "Культура Беларуска-Польска-Літоўскага сумежжа".**

**На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў:**

**1. Узаемаўплыў культур народаў беларуска-польска-літоўскага сумежжа: беларусаў, палякаў, яўрэяў, рускіх, татар, літоўцаў і інш.**

**2. Багацце культур — багацце моў: этналінгвістычныя асаблівасці рэгіёна.**

**3. Актуальныя пытанні рэгіянальнай адукацыі беларуска-польска-літоўскага сумежжа.**

**Тэзісы дакладаў ці артыкулы аб'ёмам да 6 старонак машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы, высылаюцца на адрас: Рэспубліка Беларусь. 224030, г. Брэст-30, абаненцкая скрыня №14. Аргкамітэт канферэнцыі, праф. Яцкевічу С.А.**

**Аргкамітэт просіць аўтараў паклапаціцца аб змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў, тэматыцы канферэнцыі, а таксама аб іх стылістычнай і арфаграфічнай дакладнасці. Да матэрыялаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, акадэмічнага звання (калі ёсць), месца працы і пасады, адраса і тэлефона.**

**Рэдкалегія пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнік матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі плануецца выдаць да пачатку яе правядзення.**

***Тэлефон для даведак:***

*Прапануем увазе чытачоў пераказ гэтай публікацыі.*

**26-25-14**

**(код г.Брэста 8-0162).**

**Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцяў,**

**Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя Згуртавання Беларусаў Свету "Бацькаўшчына".**

***У старых фаліянтах***

# Liberum veto

Неабходнасць аднадушнай ухвалы кожнага важнага рашэння не намі прыдуманая. Яшчэ ў V стагоддзі Саліцкае права франкаў было заснаванае паводле такога прынцыпу. І ў люцічаў, славянскага племені, што жыло ў міжрэччы Одры і Лабы ў X стагоддзі, веча прымала толькі правілы, падтрыманыя ўсімі ўдзельнікамі сходу. Што праўда, калі хтось наўмысна не далучаўся да грамады і праціўўся, то таго білі кіямі. А суплеменнікам, якія не хацелі ісці на веча, нішчылі жытло ці іншую маёмасць.

І наш зямляк Ягайла, які стаў каралём Польшчы, выхаваны на звычаях крывіцкага веча, завёў звычай агульнай ухвалы рашэння. Прыкладам, аднадушна была прынятая ягоная прапанова адкупіць Дабжынскую зямлю ад крыжакоў. Ды так і пачалося. Калі хто-небудзь падаваў прапанову, то мусіў пераканаць паслоў, што справа слушная. Ды калі большасць прысутных пагаджалася, то і не згодныя паслы саступалі і галасавалі, як усе. Калі паслы з розных куткоў Рэчы Паспалітай сабраліся на сейм, каб абраць за караля Сцяпана Батуру, то князь Астрожскі, кіеўскі ваявода, казаў ад імя жыхароў Кіеўшчыны ды валынянаў, што пагодзіцца з воляй большыні. І сам кароль Батура не адзін раз пацвярджаў, што дзеля карысці Рэчы Паспалітай меншасць павінна далучацца да большасці.

Ды пазней праз уласную карысць некаторыя паслы пачалі не пагаджацца і зрываць рашэнні сейма. Упершыню так учыніў вількамірскі стольнік Уладзіслаў Сіцінскі, абураны каралеўскім дэкрэтам у справе шаўляйскай эканоміі, вылучыўся з грамады і сейм сарваў. Народ яго, казалі, кляў, але што з таго: пачатак быў зроблены. Словы liberum veto, што азначаюць "не дазваляю", пачынаюць гучаць часцей. Да таго ж, паслы выкарыстоўвалі іншую форму пратэсту — пакідаць залу пасяджэнняў.

Так у Рэчы Паспалітай нарадзіўся адзін з самых заганных, як мяркуюць, спосабаў уздзеяння на палітыку дзяржавы, што прывяло да анархіі. На жаль, так дзеялася да 1768 года. Тады сейм увёў першыя абмежаванні "вольнага голасу", дзелячы ўсе справы, вынесеныя на абмеркаванне, на тры групы. Тады ж вырашылі, каб эканамічныя і прававыя пастановы прымаліся большасцю галасоў. Канстытуцыя, прынятая 3 траўня 1791 года, скасавала liberum veto цалкам.

# Даты і падзеі ў сакавіку

**21** — 460 гадоў таму (1537) вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт дазволіў магілёўскім мяшчанам заснаваць пры Спаскім праваслаўным манастыры праваслаўнае брацтва і шпіталь пры ім.

— 400 гадоў таму (1597) кароль Жыгімонт III сваёй граматай "Магілёўскім мяшчанам праваслаўнай веры" дазваляў цягам году двухразовы збор сродкаў на шпіталь і догляд хворых, а таксама загадваў "в школе братской детей братьи и убогих сирот... языка и письма словеньского, руского, греческого, латинского и польского дармо учити..."

— 155 гадоў з дня нараджэння (1842) Міколы Лысенкі, украінскага кампазітара, этнографа, заснавальніка ўкраінскай нацыянальнай музычнай школы.

— 135 гадоў таму (1862) магілёўскі губернатар падтрымаў хадайніцтва 17 дактароў Магілёва заснаваць медыцынскае таварыства і падаў у міністэрства ўнутраных спраў дзеля зацвярджэння ягоны статут.

— 70 гадоў таму (1927) польскімі ўладамі афіцыйна забароненая Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада — самая шматлікая легальная арганізацыя Заходняй Беларусі (у студзені 1927 г. дзейнічала больш за 2 тыс. гурткоў, што аб'ядноўвалі блізу 120 тыс.сяброў).

**22** — 115 гадоў з дня нараджэння (1882) Эдварда Будзькі, святара, журналіста, выдаўца газеты "Swietač" (выходзіла ад 1.XI.1916), заснавальніка беларускай гімназіі ў родным Будславе (1918).

— 55 гадоў таму (1942) выйшаў першы нумар сатырычнага лістка "Партызанская дубінка".

**23** — Сусветны метэаралагічны дзень.

— 70 гадоў таму (1927) фактычна за ўжыванне беларускай мовы ў касцёле польскія ўлады арыштавалі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага і павезлі яго ў варшаўскую "Макатоўскую турму — на двухгадовую адседку".

25 — 400 гадоў таму (1597) пачаліся допыты палоннага казацкага старшыны Севярына Налівайкі, які "седел у везенью пасажоный от его королевской милости у Варшаве", пра што і згадваецца ў "Записе вознаго Казловскаго". Пакараны смерцю 21 красавіка 1597 года.

— 80 гадоў таму (1917) адбылася Канферэнцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады, дзе было вырашана распрацаваць умовы дзеля стварэння аўтаноміі Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расіі.

**26** — 80 гадоў таму (1917) на з'ездзе розных беларускіх арганізацый у Менску абраны Беларускі Нацыянальны Камітэт, які ў сваёй дэкларацыі выказаў неабходнасць "нацыяналізацыі беларускай школы". Існаваў да жніўня 1917 г., калі яго замяніла Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў.

— 55 гадоў з дня нараджэння (1942) паэта Івана Арабейкі.

**27** — Міжнародны дзень тэатра.

— 155 гадоў таму (1842) славуты славацкі славіст Й.П.Шафарык у лісце да Восіпа Бадзянскага, які збіраў беларускія песні, даследаваў мову Скарынавай "Бібліі", паведаміў, што цікавіцца беларускай мовай, і прасіў прыслаць узоры беларускага пісьменства.

Падрыхтаваў З.С.

# Афарызмы

*17 сакавіка мінулі 317-я ўгодкі смерці Францыа князя дэ ля Рошфуко. Ягоны роздум над сваім багатым і бурным жыццём пераліўся на паперу — склалася невялікая кніжка "Максімы і маральныя развагі". Горкая праўда пра людзей, выказаная ў кароткіх, іранічных, а часта і жорсткіх выслоўях, не перастала быць актуальнай, бо, відаць, чалавечы род не змяніўся. Зрэшты, калі хто мяркуе інакш, дык усёроўна варта пазнаёміцца з думкамі французскага арыстакрата.*

*Заўжды маем дастаткова сілы, каб пераносіць чужое няшчасце.

*Сапраўднае каханне — гэта як з'яўленне прывідаў: усе пра іх гавораць, але мала хто іх бачыў.

*Чалавек ніколі не бывае настолькі шчаслівым, як і нешчаслівым, наколькі сабе гэта ўяўляе.

*Праўда не ўчыніць на свеце столькі добрага, як яе прывід — злога.

*Нічым не дзеляцца так шчодра, як парадамі.

*Ведаў людзей, якія ніколі б не былі закаханымі, каб не чулі пра каханне.

*Хваляць, звычайна, дзеля таго, каб быць хваленым.

*Толькі вялікія людзі маюць вялікія недахопы.

*Не закахацца другі раз у чалавека, якога перастаў кахаць.

*Раўнівы больш кахае сябе, чым наогул кахае.

*Смешнасць ганьбіць больш, чым ганьба.

*Пры перадруку спасылка на NS абавязковая*

Наша Слова (12)

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 444 Наклад 2310 паасобнікаў.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана ў друк 19.03.1997 г. у 15 гадзін.